# Весткі з Бацькаўшчыны

## НАВАГРАДАК

### ДВА КАНЦЭРТЫ

4-га і 5-га сьнежня 1943 г. у Наваградку, у памешканьні кіно былі наладжаны два канцэрты, увесь прыбытак з якіх прызначаны на карысьць мясцовых дзіцячых дамоў. Канцэрты ладзіліся стараньнем жаночай сэкцыі паветавага аддзелу БСП.

Праграма абодвух канцэртаў складалася з двух частак: з пастаноўкі вясёлай і лёгкай аднаактовай камэдыі Патапенкава пад назовам «Букет» (перакладчык і рэжысэр інж. Л. Гірыс, інсцэнізатар Д. Мамчыц) і з адмысловай канцэртнай часткі, рознай для кажнага канцэрту.

Камэдыю «Букет» наваградзкія артысты-аматары паставілі зусім на ўзроўні. Па залі каціліся дружны сьмех і жывыя воплескі. У канцэртнай частцы на асаблівую ўвагу заслугоўвае ўдзел квартэту пад мастацкім кіраўніцтвам Юркі Мазура. Выступы гэтага квартэту запоўнілі канцэртную частку праграмы 4-га сьнежня. На другі дзень, 5-га сьнежня, канцэртная частка складалася з выступленьняў салістых Мадэстава і Хука і, папулярнага ў Навградчыне скрыпача Дыдышкі.

Перад пачаткам канцэртаў была арганізавана лётарэя, таксама на карысьць дзіцячых дамоў, якая ўнясла дадатковую вясёласьць і ажыўленьне і павялічыла прыбытак.

Канцэрты пакінулі прыемнае ўражаньне. І артысты і госьці разыходзіліся з пачуцьцём, што зрабілі добрую, карысную справу.

## БАРАНАВІЧЫ

### ШАХМАТНЫ МАТЧ

З ініцыятывы прафэсыйнага саюзу Баранавіцкй акругі зарганізавана шахматная група ў складзе якой працуе 10 асобаў. Першая зборка групы адбылася яшчэ 31-га кастрычніка 1943 году і ад гэтага часу група рэгулярна працуе штодня.

У бліжэйшы час прафэсыйны саюз акругі хоча правесьці матч на годнасьць чэмпіёна па шахматах гораду Баранавічы.

### У ДАПАМОГУ ЛЕКАРАМ

У Баранавічах працуе хэмічна-бактэрыялягічная лябараторыя, якая дапамагае лекарам больш дакладна пазнаць хваробу.

Лябараторыя мае аддзелы: клінічны, бактэрыялягічны, сэралёгічны і харчавы. У клінічным аддзеле робяцца досьледы крыві, страўнікавага соку і выпаражненьняў хворых. Бактэрыялягічны і сэралёгічны аддзелы займаюцца мікраскапічным дасьледваньнем на розныя заразныя захвораньні. Харчавы аддзел дасьледуе добраякаснасьць харчавых прадуктаў.

У лябараторыі працуе 13 асоб. Пры лябараторыі ёсьць яшчэ і экспэрымэнтальны гадавальнік з жывёламі. За няпоўны год у лябараторыі праведзена 7170 розных аналізаў.

### БАРАНАВІЦКІ МАСТАК У НЯМЕЧЧЫНЕ

Таленавіты мастак сп. Цімафей Кірышчэня з Баранавіч , атрымаў запросіны на дэкаратыўную працу ў адным з тэатраў Нямеччыны і днямі пакінуў Баранавічы. На новай працы жадаем яму найлепшых посьпехаў.

### КАНЦЭРТ МАСТАЦКАЙ ШКОЛЫ

У нядзелю 19-га сьнежня ў Беларускім Народным Доме ў Баранавічах, Мастацкая Школа ладзіла канцэрт. Багатая праграма беларускіх і ўкраінскіх народных песьняў, а таксама музычныя творы эўрапэйскіх кампазытараў, выканана вучнямі музычнага аддзелу вельмі таленавіта.

Сваім выступленьнем вучні далі магчымасьць беларускаму грамадзянству, якое цікавіцца разьвіцьцём сваей моладзі, сьцьвердзіць дасягненьні за паўгода навукі ў школе. Шмат якія з вучняў выяўляюць сваю не штодзённую таленавітасьць.

### МЭДЫЦЫНСКАЯ ШКОЛА

Адчыненая ў лютым 1942 году мэдыцынская школа, на пачатку мела на мэце як найхутчэй падрыхтаваць аптэкарскіх памочнікаў, дзеля гэтага навука праводзілася без перапынку зімой і летам. З першага верасьня 1943 году пры школе працуе акушэрска-фэльчарскі курс. Школа мае 330 вучняў. Школа добра зарганізаваная, яна забясьпечана адпаведным пэрсаналам выкладчыкаў і навучаньне ў яе стаіць на высокім узроўні.

Апрача тэарэтычнай навукі вучні праходзяць практыку ў мясцовай лячэбніцы. У вольныя ад заняткаў гадзіны яны займаюцца мастацкай самадзейнасьцю і грамадзкай працай. Дзейна ўдзельнічаюць у працах арганізацыяў БСП і СМБ. Зарганізавалі і выдаюць сьценную газэту пад назовам «Кліч».

### ВЫСТАЎКА ПРАЦ БАРАНАВІЦКІХ МАСТАКОЎ

Мастакі гораду Баранавічы пастанавілі выступіць з новым паказам свае працы і 25-га сьнежня адчынілі выстаўку абразоў і малюнкаў. У выстаўцы прымаюць удзел наступныя мастакі: А. Шымановіч, Казак, Максімцаў, Малец, Разьдзялоўская, таксама некаторыя мастакі з уцекачоў.

### ВЯЧЭРНЯЯ ШКОЛА

Для падвышэньня агульнай адукацыі фаховых працаўнікоў гораду Баранавічы зарганізавана вячэрняя школа, якая ад 6-га сьнежня пачала ўжо сваю працу. Школу наведвае 170 чалавек. Навука разьлічана на тры гады, праводзіцца групамі паводле ступені граматнасьці. Апрача агульных прадметаў выкладаюцца і некаторыя спэцыяльныя.

### КАНЦЭРТ У АКРУГОВЫМ КАМІСАРЫЯЦЕ

17-га сьнежня у Акруговым Камісарыяце быў наладжаны канцэрт для працаўнікоў гэтай установы. На асаблівую ўвагу заслугоўвае ігра на раялі сп. Ю. Качавіцкага, які выканаў два вальцы (Чайкоўскага і Шопэна) і выявіў высокую музычную культуру і тэхніку. Добра былі выкананы нэапалітанскія песьні сп. У. Яноўскім (барытон) і песьня з опэры Рафаэль сп. У. Дубравіным (тэнар). Абодва сьпевакі выступілі таксама разам, выканаўшы на два галасы рамакс Глінкі і ўкраінскую песьню. Л. Вадзім на раялі выканаў аднэю рукою «Фантазію» Сабанева, І. Карэў выканаў «Польку» Гуно і вязанку народных песьняў, а К. Мацьвееўна на балалайцы народныя скочныя песьні. Усе трое запраўды па майстэрску валодаюць інструмэнтамі.

### КУРСЫ НЯМЕЦКАЕ МОВЫ

Зарганізаваныя свайго часу трохмесячныя курсы нямецкае мовы ў Баранавічах для супрацоўнікаў гарадзкой управы, 2-га сьнежня закончылі працу. Праведзеныя экзамэны далі добрыя вынікі. Кіраваў курсамі школьны інспэктар гораду, сп. Шыбун.

## СЛУЦАК

### НОВАЯ П'ЕСА

Кіраўнік Слуцкага Акруговага Дому Культуры Н. Ждановіч напісаў новую п'есу пад назовам «Мікола і Ірына» — мэлёдрама ў шасьці частках. Уся п'еса напісана ў вершаванай форме.

Тэатр Дому Культуры ўжо прыступіў да працы над гэтай п'есай і ў хуткім часе яна будзе пастаўлена на сцэну.

Галоўныя ролі будуць выконваць артысты: Касач, Прыдацька, Марцьянава, Салаўёва і сам аўтар п'есы.

## ЧАХЦЫ

### ПЕРШАЯ ЁЛКА

Беларуская школа ў Чахцы, першая з усіх беларускіх школ Пружаншчыны, 26-га сьнежня ладзіла першую ёлку. На ёлку былі запрошаныя прадстаўнікі беларускага грамадзянства і нямецкія пагранічнікі, якія знаходзяцца ў Чахцы. Нажаль, малая школьная заля не змагла зьмясьціць усіх жыхароў вёскі, прыбыўшых паглядзець на мастацкую самадзейнасьць вучняў.

Прыбраная ёлка, заля і дзеці ў нацыянальных, разнакалёрных касьцюмах — усё рабіла незвычайна мілае ўражаньне. Праграма сьвяточнага вечару складалася з 30 нумараў (песьні, танцы і дэклямацыі). Амаль усе выступы былі выкананы па мастацку.

Пасьля мастацкае часткі ад імя Аддзелу Беларускага Аб'еднаньня прывітаў прысутных нямецкіх гасьцей сп. Самайлюковіч, які пажадаў ім вясёлых сьвятаў і падзякаваў за дапамогу пры рамонце школы. У адказ на словы сп. Самайлюковіча адзін з прысутных немцаў падзякава за прывітаньні, за гасьціннасьць і зазначыў пры гэтым, што нямецкія дзеці на сваёй бацькаўшчыне таксама праводзяць сьвяты, але абавязак перад бацькаўшчынай змушае многіх іх бацькоў быць далёка ад сваіх дзяцей. Гэтыя школьныя выступы беларускіх дзяцей прыпамінаюць прысутным іх сямейныя абставіны жыцьця. Пасьля ўсяго пагранічнікі запрасілі ўсіх выступаўшых дзяцей, настаўнікаў і гасьцей з Пружаны да сябе на каву.

Запраўды дзень прайшоў вельмі прыемна і карысна.

## Нашыя гарады



Катэдральны касьцёл у Віцебску

## Адусюль пакрысе

Для забесьпячэньня цёплаю верхняю вопраткаю Слонімскага Батальёну «Службы бацькаўшчыны», беларускае жыхарства зарганізавала зборку аўчынак на кажухі і шапкі.

*

У Дабрамысьлю на Слонімшчыне, нядаўна адбылося ўрачыстае высьвячэньне новапабудаваных кашараў Слонімскае Самаахова.

*

Сяляне ваколіцаў Гарадзішча (Баранавіцкая акруга) з собскай ініцыятывы праводзяць зборку патрабнейшых рэчаў для беларускае паліцыі. Дагэтуль сабрана 123 пары рукавіц, 65 пар шкарпэтак, 145 кгр воўны на валёнкі, 390 розных скур на цёплую вопратку і г. д.

*

Былы камандзер Слонімскае Брыгады Беларускае Самааховы, сп. І. Таранка вызначаны нядаўна на становішча старшыні гор. Слоніму.

*

У Слоніме пачалі працу бухгальтэрыйна-фінансавыя курсы зарганізаваныя фінансавым аддзелам Акруговага Камісарыяту.

*

Акруговым рэфэрэнтам у справах культуры ў Слонімскай акрузе вызначаны Др. В. Войтэнка.

## З беларускага жыцьця ў Нямеччыне.

### ВІЗЫТАЦЫЯ БЕЛАРУСКІХ АДДЗЕЛАЎ АПЕКІ ПРЫ ФРОНЦЕ ПРАЦЫ

Перад Калядамі кіраўнік Цэнтральнага Ураду Беларускае Апекі пры нямецкім Фронце Працы наведаў беларускія аддзелы гэтай установы ў Кэнігсбэргу, Вене і Штрасбургу. Ён пазнаёміўся з мясцовымі ўмовамі працы і адбыў рад канфэрэнцыяў падчас якіх складзена таксама і пляны працы аддзелаў на 1944 г. Адначасова былі ім наведаныя і іншыя беларускія культурна-асьветныя ўстановы ў гэтых гарадох.

### СЯБРОЎСКІ ВЕЧАР

12-га сьнежня пры гуртку Беларускага Камітэту Самапомачы ў табары «Пыхаў» у Кэнігсбэргу быў зарганізаваны сяброўскі вечар, на якім ставілася трагі-камэдыя Янкі Быліны ў 3-х дзеях п. наз. «Выбары старшыні». П'есу ставіла аматарская група сяброў Аддзелу БКС у Кэнігсбэргу. Апрача гэтага выступаў яшчэ і хор Аддзелу пад кіраўніцтвам сп. Люткевіча. Як выступы аматараў-артыстых, так і выступы хору былі на высокім мастацкім узроўні.

Вечар гэты ўнёс незвычайнае ажыўленьне ў жыцьцё сяброў мясцовага БКС і выклікаў агульнае задавальненьне. Пачын кэнігсбэрскага Аддзелу БКС трэба прывітаць і пажадаць, каб гэткія вечары з спэктаклямі і выступамі хору ладзіліся часьцей, бо гэта больш згуртоўвае, зблізжае і актывізуе сяброў арганізацыі, дае ім магчымасьць культурна і карысна правесьці вольны ад працы час і ў касцы узмацняе нацыянальны дух беларусаў на чужыне.

Б. Дубровіч.

# З выдавецкага руху

**Беларускія (Крывіцкія) песьні для соля, дуэту, квартэту з акампанімэнтам фортэпяна і 4 народныя танцы. Прага, 1943 г. Выданьне інж. В. Русака. Бал. 65.**

Зборнік гэты, як піша ў сваіх заўвагах выдавец, складзены выпадкова. У ім ёсьць песьні і народныя танцы ўжо агульнавядомыя а таксама колькі песьняў малавядомых аўтараў. Мэтай выдаўца была перадусім папулярызацыя беларускіх песьняў. Апрача гэтага хацеў ён пазнаёміць грамадзянства з некаторымі песьнямі, якія ў рукапісах перахоўваюцца ў замежных беларускіх архівах, каб гэтым самым і захаваць іх у выпадку зьнішчэньня арыгіналаў.

Зьмест зборніка: 1. Беларуская нацыянальная песьня — «Мы выйдзем шчыльнымі радамі», 2. Лучынка — лучыначка, 3. Не пагаснуць зоркі ў небе, 4. Абнімі ты мяне маладая, 5. А мой дзядзька дуднік быў, 6. Водгульле, 7. Восень, 8. Ой рана, рана куры запелі, 9. Конь бяжыць зямля дрыжыць, 10. Адна, ізноў адна, 11. Ці грэх цябе любіць, 12. Былі ў бацькі тры сыны, 13. Мая жонка, 14. Месяц і ў канцы чатыры народныя танцы: «Бульба», «Лявоніха», «Мяцеліца» і «Юрачка».

**«Лідзкі тыднёвік».** Нядаўна пад гэткім назовам пачаў выходзіць тыднёвік у беларускай мове. Выдаўцом гэтага тыднёвіка зьяўляецца Акруговы Камісарыят у Лідзе. Рэдакцыя месьціцца пры вуліцы Horst-Wessel.

Усялякае друкаванае слова ў беларускай мове трэба прывітаць, асабліва ў сяньняшнія ваенныя часы, калі так адчуваецца недахоп літаратуры ў роднай мове.

Адно астаецца пажадаць, каб рэдакцыя ўспомненага тыднёвіка хоць крыху падавала вестак з беларускага жыцьця лідзкай акругі і агулам.

**«Слонімскі Кур'ер».** Пад гэткім назовам у Слоніме ад 1-га студзеня 1944 г. пачала выходзіць новая беларуская газэта. Газэта гэтая выходзіць раз у тыдзень і друкуецца лацінкай і кірыліцай. Рэдактарам газэты зьяўляецца ведамы беларускі дзеяч, б. бурмістр гор. Баранавіч, сп. Др. В. Войтэнка.

Першы нумар газэты робіць добрае ўражаньне разнароднасьцю зьместу. Найбольш увагі прысьвечана гістарычнаму факту ўтварэньня Беларускае Цэнтральнае Рады, апрача гэтага ў газэце багаты інфармацыйны і палітычны аддзелы.

Падаецца шмат вестак з беларускага жыцьця Слонімшчыны. У ўступным слове да першага нумару Слонімскі Акруговы Камісар Эррэн жадае, каб «Слонімскі Кур'ер» стаўся «роднай газэтай у запраўдным значэньні гэтага слова». Газэта, як піша Рэдакцыя, мае заданьне «быць весьнікам штодзённага жыцьця нашае (Слонімскае) акругі, а таксама пэмантам, які злучыць нашыя думкі і сілы ў сягоньнешнім адказным часе на будову шчасьлівага заўтра нашага народу.»

Адзначаючы выхад «Слонімскага Кур'ера» мы жадаем яму плоднае і пасьпяховае працы для дабра нашае Бацькаўшчыны.

## Гумар



Брытанскі жывадзёр

### АБВЕСТКІ

На шляху да камунізму згублена надзею на сусьветную рэвалюцыю. Гэтых, хто яе зноўдзе, просім зьвярнуць на адрыс: Масква, Крэмль. Сталіну.

Купляем і плоцім высокія цэны за панслявістычныя ідэі.

Аддзел агітацыі і прапаганды
ЦК ВКП (б).

## Шукаюць

Братоў сваіх **Уладзімера, Станіслава** і **Ігнася Хілімоньчыкаў** з вёскі Скрундзе, гм. Казлоўшчына, Слонім, шукае **Wincenty Chilimontschyk,** bei Hardt, in Reinlacken, Post Kölmisch-Damerau, Krs. Wehlau, Ostpr.

**Баранава Максіма** шукае **Natalia Lukianowa,** Elingen, Rylengut.

**Федара Ярмошку** з сяла Чэртовічэ, пав. Валожын, шукае **Wladimir Bacian,** Neindorf üb. Braunschweig, Nr. 2.

За рэдактара — **Станіслаў Грынкевіч.**
**Hauptschriftleiter und für den Inhalt verantwortlich: Stanislaŭ Hrynkiewitsch,** Berlin NW 87, Schließfach 34. — Druck: Gebr. Radetzki, Berlin SW 68, Friedrichstraße 16.